

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 26 (712) 13 ЛІПЕНЯ 2005 г.

# 16 - 17 ліпеня IV з'езд беларусаў свету

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вынікі падпісной кампаніі на нашую газету на 3-ці квартал 2005 года. У нас адбылося сезоннае зніжэнне колькасці падпісчыкаў па ўсіх абласцях і ў цэлым па краіне. Аднак ёсць і раёны, дзе адбыўся рост падпіскі (Пружаны, Лунінец, Верхнедзвінск, Наваполацк, Полацк, Вілейка, Мядзель, Салігорск, Жыткавічы, Мазыр, Чачэрск, Воранава, Наваградак, Магілёў, Асіповічы, Шклоў), за што ім шчыры дзякуй.

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в | 12 | 11 |
| Бяроза р.в. | 6 | 2 |
| Белаазёрск р.в | 3 | 3 |
| Бярэсце гор. | 16 | 15 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | - |
| Драгічын р.в | 2 | 2 |
| Жабінка р.в. | 1 | - |
| Іванава р.в | 2 | 1 |
| Івацэвічы р. в. | 6 | 5 |
| Камянец р.в. | 3 | 3 |
| Кобрын гор. | 1 | - |
| Лунінец гор. | - | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 2 | 2 |
| Пінск гор. | 9 | 8 |
| Пружаны р.в. | 5 | 7 |
| Столін р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **73** | **64** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 25 | 22 |
| Віцебск РВПС | 2 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 9 | 11 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 4 |
| Гарадок р.в. | 4 | 2 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | - |
| Міёры р.в. | 4 | 4 |
| Наваполацк гор. | 22 | 27 |
| Ворша гор. | 6 | 4 |
| Полацк гор. | 11 | 12 |
| Паставы р.в. | 3 | 3 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | - |
| Ушачы р.в. | 4 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 3 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 5 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **117** | **109** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 4 | 3 |
| Барысаў ггор. | 3 | 2 |
| Вілейка гор. | 3 | 5 |
| Валожын гор. | 7 | 5 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 2 |
| Жодзіна гор. | 5 | 7 |
| Клецк р.в. | 2 | - |
| Крупкі р.в. | 3 | 3 |
| Капыль р.в. | 1 | - |
| Любань р.в. | 5 | 5 |
| Менск гор. | 315 | 287 |
| Менск РВПС | 11 | 8 |
| Маладзечна гор. | 15 | 14 |
| Мядзель р.в. | 2 | 5 |
| Пухавічы РВПС | 7 | 7 |
| Нясвіж р.в. | 4 | 1 |
| Смалявічы р.в. | 4 | - |
| Слуцк гор. | 29 | 6 |
| Салігорск гор. | 3 | 4 |
| Ст. Дарогі р.в. | 2 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 3 |
| Узда р.в. | 2 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 4 |
| **Усяго:** | **438** | **374** |

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | - |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 27 | 23 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 1 | - |
| Ельск р.в. | 1 | - |
| Жыткавічы р.в. | 18 | 19 |
| Жлобін гор. | 5 | 3 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 1 |
| Лельчыца р.в. | 1 | - |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 3 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | - |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | 1 | - |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 7 | 5 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 1 |
| Чачэрск р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго:** | **79** | **66** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставца | 6 | 6 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 10 |
| Воранава р.в. | 6 | 7 |
| Гародня гор. | 32 | 30 |
| Гародня РВПС | 10 | 8 |
| Дзятлва р.в. | 7 | 4 |
| Зэльва р.в. | 2 | 2 |
| Іўе р.в. | 5 | 4 |
| Карэлічы р.дв. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 10 | 7 |
| Наваградак гор. | 5 | 7 |
| Астравец р.в. | 8 | 7 |
| Ашмяны р.в. | 7 | 6 |
| Смаргонь гор. | 13 | 11 |
| Слонім гор. | 11 | 11 |
| Свіслач р.в. | 8 | 7 |
| Шчучын р.в. | 6 | 5 |
| Ліда | 11 | 10 |
| **Усяго:** | **161** | **146** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 6 | 5 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | 1 | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 12 | 3 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | 1 | - |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | 3 | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | 1 | 1 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 12 | 18 |
| Магілёў РВПС | - | - |
| Асіповічы гор. | 6 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 2 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 1 |
| Чавусы р.в. | 2 | 1 |
| Шклоў р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго** | **60** | **48** |
| **Усяго на краіне** | **928** | **807** |

## Яшчэ раз пра падпіску

Старшыня ТБМ Віленскага краю Юры Гіль шмат працуе на ніве беларушчыны. Праз "Наша слова мы стала даведваемся пра плён дзейнасці арганізацыі, якую ён ачольвае. Сёлета, годам, акрамя іншага, ён намагаецца зрабіць падарунак сваёй роднай Параф'янаўскай СШ Докшыцкага раёна – выпісаць на школьную бібліятэку газету ТБМ "Наша слова". Аднак да гэтага часу ягоныя добрыя намеры не знаходзяць паразумення ў адміністрацыі школы.

З гэтай нагоды спадар Гіль двойчы звяртаўся ў Міністэрства адукацыі Беларусі. І за другім разам атрымаў ліст, у якім хоць і няма наўпраставага адказу на пытанне, чаму ён не можа выпісаць на школу газету "Наша слова", але ў ім шмат цікавай і карыснай інфармацыі. Таму лічым неабходным давесці поўны тэкст гэтага ліста да ведама настаўнікаў, адміністрацыі школ, усіх чытачоў "Нашага слова".

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Упраўленне
агульнай сярэдняй адукацыі
АКПА 00027626 вул. Савецкая, 9
220010, г. Мінск, тэл. 226 51 59
факс (017) 200 84 83

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Управление
общего среднего образования
ОКПО 00027626 ул. Советская, 9
220010, г. Минск, тел. 222 68 48

*E-mail:* root@minedu.unibel.by

**Гіль. Ю.**
**вул. Рудас, 36, кв. 16,**
**г. Вільнюс**

У сувязі з Вашым паўторным пісьмом упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

Яшчэ раз пацвярджаем, што Міністэрства адукацыі рэкамендавала ўпраўленням адукацыі аблвыканкамаў і камітэту па адукацыі Мінскага гарвыканкама арганізаваць у 2005 годзе падпіску ва ўстановах, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, найперш на тыя выданні, заснавальнікам якіх з'яўляецца Міністэрства адукацыі. Гэта "Настаўніцая газета", газеты "Раніца", "Знамя юности", "Переходный возраст", журналы "Роднае слова", "Народная асвета", "Пралеска" "Пачатковая школа", "Беларускі гістарычны часопіс" і інш. а таксама на перыядычныя выданні рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" (часопісы "Полымя", "Маладосць", штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" і інш.).

Падпіска ва ўстановах адукацыі ажыццяўляецца па рашэнні педагагічнага савета ўстановы, найперш на выданні, неабходныя для арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу, і з'яўляецца добраахвотнай справай кожнай навучальнай установы.

Для станоўчага вырашэння Вашага пытання раім звярнуцца персанальна да тых настаўнікаў Параф'янаўскай сярэдняй школы Докшыцкага раёна, каму неабходна газета "Наша слова" у навучальна-выхаваўчай дзейнасці, і арганізаваць ім падпіску на гэтае выданне.

**Начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі**
**У. К. Шчэрба.**

## ПАДЗЯКА

**Гарадзенская абласная арганізацыя ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" выказвае шчыры "Дзякуй" кіраўніку фірмы "Свідравіна" Зылькову Сергею Паўлавічу, прадаўцу будматэрыялаў, інжынеру-кабельшчыку, эколагу за фінансавую дапамогу пры падпісцы на II паўгоддзе 2005 года газеты "Наша слова" для 53 сельскіх бібліятэк і сярэдніх школ Гарадзенскай вобласці.**

**Ад імя абласной Рады ТБМ імя Ф. Скарыны**
**А. Місцюкевіч.**

## 105 гадоў з дня народзінаў
# Уладзіміра Дубоўкі



Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка нарадзіўся 15.07.1900 г. у в. Агароднікі Пастаўскага раёна. Скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю, Вышэйшы літ.- маст. ін-т імя В. Брусава (1924). У 1922-25 адказны сакратар пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР. У 1924-27 выкладчык бел. літаратуры ў Камуніст. ун-це народаў Захаду, у 1926-30 рэдактар Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўраду Саюза ССР. У 1930 арыштаваны і асуджаны на высылку ў Яранск, у 1937 - на10 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны ў 1957 г.

Аўтар зборнікаў вершаў "Строма", "Трысцё" і інш., паэмаў "Там дзе кіпарысы", "Браніслава", прыгодніцкіх аповесцяў для дзяцей "Жоўтая акацыя", "Ганна Алелька" і іншых твораў. Шмат перакладаў. Памёр 20.3.1976 г.

# Перайменаванне завершана




На трох сталічных праспектах з'явіліся шыльды з новымі назвамі, нададзенымі ім указам прэзідэнта 9 траўня гэтага года.




Шыльды выканы ў нацыянальных бел-чырвона-белых колерах і паводле еўрапейскіх стандартаў. На шыльдзе ўказваецца не толькі назва вуліцы і нумар дома, але ўказаны і нумары суседніх дамоў. Цяпер, калі стаіш, скажам, каля 20-га дома, не трэба думаць, дзе знаходзіцца 18-ты, а дзе 22-гі дамы. Усё напісана.

На іншых вуліцах Менска таксама пачалі з'яўляцца новыя шыльды.

*Наш кар.*





# ШОСТАЕ ПАЧУЦЦЁ, ВОСЬМЫ ЦУД СВЕТУ...

Ёсць у нашай мове, як і ў шмат якіх іншых мовах, фразеалагізм ***шостае пачуццё*** – калька з французскай ***(sixieme sens)*** або англійскай ***(sixtn sense)*** моў. Ён абазначае "здольнасць інтуітыўна ўспрымаць, прадбачыць, угадаваць што-небудзь". Вось некаторыя прыклады ягонага ўжывання ў маўленні: *"Ён смутна, шостым пачуццём, як заўсёды пазнаеш знаёмае, пазнаў словы, мабыць, першага прыпеву"* (У. Караткевіч); "Я ганарыўся, радаваўся, што шостае пачуццё мяне не падвяло і што маё каханне з першага погляду мае пад сабой рэальную, урадлівую глебу" (У. Міхно); "Сабака, дзякуючы свайму шостаму пачуццю, загадзя ведаў аб лёсе свайго гаспадара і прыбег на апошняе з ім развітанне" (Ф. Аляхновіч).

Выток гэтага выразу, здаецца, зразумелы: чалавек і вышэйшыя жывёлы ўспрымаюць з'явы навакольнага асяроддзя з дапамогай пэўных органаў пяці пачуццяў – **зроку, слыху, нюху, смаку, дотыку**. Выразам ***шостае пачуццё*** назвалі інтуіцыю – як дапаўненне да гэтых пяці пачуццяў. Першы, лічэбнікавы кампанент гэтага фразеалагізму не можа быць заменены ніякім іншым. Але супаставім надуманую, памылковую, нелагічную замену ў такіх кантэкстах: "Нешта тут не так", - сёмым пачуццём Аляксандр адчуваў, што ўсё тут намнога складаней" (І. Дуброўскі); "Пуол вышмыгнуў за дзверы. Ён нейкім дзесятым пачуццём улавіў: гэта той Яго Вялікасці Выпадак, які трэба хапаць за хвост" (П. Міська); "Люба нейкім, як кажуць, сёмым пачуццём адчувала, што размова Ашота па тэлефоне будзе тычыцца яе" (В.Праўдзін). У апошнім прыкладзе ёсць і стылеўказальная ці засцерагальная агаворка, ***як кажуць***, але менавіта т а к не кажуць, дакладней, не павінны казаць.

Выраз ***шостае пачуццё*** паводле этымалагічнай асновы свайго ўзікнення мае падабенства да выразу ***восьмы цуд свету***, які прыйшоў у нашу мову і многія іншыя мовы як калька з англійскай мовы ***(eighth wonder of the world )*** і абазначае "штосьці дзіўнае, велічнае, незвычайнае". Два прыклады: "Калі і ёсць у нас нейкі варты самага шчырага здзіўлення і захаплення "кантэкст", дык менавіта наш "восьмы цуд свету", наша літаратура, якой адкрыта зайздросцілі самыя аўтарытэтныя знаўцы многіх народаў" (Г.Шупенька); "І вось у беднай краіне пачынаецца будаўніцтва прызначанага здзівіць свет хрустальнага палаца, восьмага цуду свету" (С. Букчын).

А склаўся гэты фразеалагізм так. У старажытныя часы лічылася, што на зямлі ёсць сем цудаў свету – грандыёзных надзвычайных збудаванняў: **егіпецкія піраміды, вісячыя сады Саміраміды, храм Артаміды ў Эфесе, пахавальня Маўсола ў Галікарнасе, Калос радоскі (медная статуя на востраве Родас), маяк на востраве Фарос, статуя Зеўса ў Алімпіі.** У наш час выкарыстоўваюць ***выраз восьмы цуд свету*** для абазначэння чагосьці новага, нечаканага, надзвычайнага, як бы адштурхоўваючыся ад згаданых даўнейшых сямі цудаў (дарэчы, з магічным лікам "сем", які называюць лікам гармоніі і нябеснай дасканаласці; параўнаем: сем піарамід, сем мудрацоў, сем дзён у тыдні, сем колераў вясёлкі, сем нот, сем адтулін галавы, сем шыйных пазванкоў...)

Зразумела, што, калі б хто-небудзь замест нарматыўнага, правільнага ***восьмы цуд свету*** ўжыў "дзевяты" ці "дзесяты" (цуд свету), гэта было б недарэчна, нелагічна. Памылкова, як недарэчным з'яўляецца і выкарыстанне замест правільнага ***шостае пачуццё*** памылковага "сёмае", "восьмае" "дзесятае" (пачуццё).

Са сказанага, аднак, не вынікае, што ў фразеалагізмах нельга замяняць лічэбнікавы кампанент. Усе мы ўжываем, напрыклад, ***сёмая вада на кісялі*** і ***дзесятая вада на кісялі***, ***да сёмага поту*** і ***да дзесятага поту, сёмая (дзесятая) спіца ў коле***. І гэтыя варыянты фіксуюцца слоўнікамі як нарматыўныя, цалкам прымальныя і дапушчальныя. Але такая варыянтнасць капанентаў-лічэбнікаў пашыраецца звычайна на фразеалагізмы, у аснове якіх нерэальны вобраз, пабудаваны на тым ці іншым мастацкім прыёме: гіпербале, літоце, іроніі, алагізме і г.д. на пачатку свайго фразеалагічнага жыцця гэтыя выразы ўжываліся толькі з кампанентам ***сёмы*** (ў розных яго склонавых формах), які першапачаткова абазначаў дастаткова вялікі лік. Пасля ***сёмы*** акруглілі, паралельна сталі ўжываць і ***дзесяты***. Сэнс фразеалагізму ад такой замены не змяняўся, адчувалася тая самая нерэальнасць вобраза.

Што да этымалагічнай асновы фразеалагізму ***на сёмым небе***, то яе толькі адносна можна лічыць нерэальнай. Выток фразеалагізму – уяўленні старажытных грэкаў, арабаў пра будову свету: купал неба нібыта складаецца з сямі крыштальных сфер; на верхнім, сёмым небе, дзе знаходзіцца Бог, рай, царства нябеснае. На аснове гэтых уяўленняў склаўся фразеалагізм са значэннем "празмерна шчаслівы, вельмі задаволены": "Яны і бацькі іх будуць на сёмым небе" (Я. Колас); "Я быў, як кажуць, на сёмым небе" (М.Хведаровіч). Ён супадае сваім значэннем, вобразнасцю, лексічным значэннем, граматычнай стуктурай з такімі ж адпаведнікамі ў славянскіх, а таксама англійскай, нямецкай і некаторых іншых мовах. Фразеалагізм прыйшоў ва ўсходнеславянскія мовы, відаць, як калька з французскай мовы ***(au septieme ciel)***.

Зыходная вобразнасць скалькаванага фразеалагізму сучаснымі носьбітамі мовы не ўсведамляецца, і гэтым можна вытлумачыць з'яўленне ў некаторых беларускіх гаворках варыянта ***на дзесятым небе***. Варыянт стаў шырока выкарыстоўвацца і ў літаратуры: "На дзесятым небе быў, калі набіў зернем першы бункер" (А.Мальдзіс); "Ніна была на дзесятым небе ад радасці" (М.Лобан); "А калі ты падорыш мне дачку, а пасля і сына, дык мы на дзесятым небе будзем" (І.Козел); "Жэня быў на дзесятым небе ад радасці" (В. Праскураў). Ужыванне гэтага варыянта ў літаратурнай мове, народжанага па аналогіі з выразамі *сёмая (дзесятая) вада на кісялі, да сёмага (дзесятага) поту*, няма падставы кваліфікаваць як адхіленне ад нормы. Дарэчы, у сербскахарвацкай літаратурнай мове нормай лічыцца ***на деветом небу***. У беларускіх слоўніках апошніх гадоў фразеалагізм падаецца ў форме ***на сёмым (дзесятым ) небе.***

Калі цяпер вярнуцца да апісаных вышэй фразеалагізмаў ***шостае пачуццё*** і ***восьмы цуд свету*** і задумацца, а ці не можа і з імі здарыцца такое ж, як з выразам ***на сёмым небе***, дык адказ павінен быць толькі адмоўным. Яны трывала захоўваюць і надалей будуць захоўваць сваю адзіную, безварыянтную форму ва ўсіх ці амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах.

***Іван Лепешаў.***

***Кніжная выстава ТБМ не працуе да 25 ліпеня.***
***Бібліятэка ТБМ не працуе да 1 верасня.***

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

**Даклад сп. Змітра ВАЛАДКЕВІЧА, прачытаны на чэрвеньскім сходзе нью-ёрскага аддзелу БАЗА 12 чэрвеня 2005 года**

***12 чэрвеня ў грамадскай зале пры Саборы Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбыўся чарговы сход Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА. Былі разгледжаны падзеі ў Беларусі і вакол яе. Малады сябар аддзелу Зміцер Валадкевіч выступіў з дакладам пра беларускую мову і неабходнасць яе вывучэння. З невялікімі скаротамі прапануем гэты даклад нашым чытачам.***

Я хачу данесці да вас наступныя словы пра нашую родную мову, каб вы лепш прыгледзеліся да таго нашага, што ёсць у нас, і пра што мы часам забываем. Таго нашага, што дае нам больш сілаў і што патрэбна для існавання нашай нацыі. Сілы ў нас заўжды ёсць! Толькі трэба адчыніць у нутры нас патайныя дзверы і мы вызвалім столькі жыццёвай энергіі, што нам проста і не снілася. І як раз цяпер нам неабходна гэтая энергія, калі на нашай радзіме творыцца вялікая несправядлівасць. Дык вось, адным з галоўных ключоў, якім мы адчынім гэтыя патайныя дзверы, і з'яўляецца нашая родная беларуская мова.

Пагля́дзіце на іншыя народы. Усе яны сталі на свае ногі, не з'яўляюцца адсталымі, яны гавораць на сваіх родных мовах! Гляньце на ўсход.... Краіна Ўзыходзячага сонца... Як далёка яна прасунулася ў сваім развіцці. Японцы маюць толькі адную дзяржаўную мову. Так і іншыя развітыя краіны.

А нашыя знакамітыя нацыянальныя дзеячы, як Францішак Скарына – хіба яны ўзбагачалі нашую мову толькі дзеля таго, каб мы яе забылі? Каб мы страцілі нашую нацыянальную еднасць, нашую культуру, неад'емнаю часткай якіх і з'яўляецца нашая родная мова?

Трэба браць прыклад з такіх нашых землякоў, як Скарына. Ён зрабіў шмат для беларускай нацыі, і ягонаю моваю была беларуская. Скарына – гэта наш гонар, традыцыя, нашая гісторыя. А гэта ўсё і ёсць нашая сіла! А сіла нам неабходная дзеля барацьбы з злачынцамі, якія жывуць у нашай краіне і забіваюць наш народ як фізічна, так і маральна. Выйграе толькі моцны. Дык давайце ж збяром усе нашыя сілы. Давайце гаварыць толькі па-беларуску. А расейская мова будзе замежнаю для нас і не будзем рабіць яе роднаю. Бо складаецца такое ўражанне, што мы з Расеі, калі гаворым па-расейску. Давайце зробім так, каб усе мы гаварылі па беларуску. Давайце будзем ведаць нашу родную мову лепш за замежныя.

Успамінаю адзін выпадак са мною. Разгаварыўся быў з знаёмым амерыканцам. І ён спытаў мяне: "А як па-беларуску...?"

Я дакладна ня памятаю, якое слова ён хацеў ведаць, але факт у тым, што я не ведаў гэтага слова па-беларуску, толькі па-расейску ды па-ангельску. Тады ў мяне на душы стала неяк кепска.

Я лічу, што даведвацца новае пра нашую мову – гэта вельмі цікава. А па-другое, нашы веды – гэта зброя супраць любога ворага. І калі ўсё скласці разам: і нашую мову, і веды пра родную мову, і веды па гісторыі, традыцыях беларусаў, тады мы знішчым тое зло, якое ёсць на нашай Радзіме! Таму я коратка прабягуся па гісторыі роднай мовы.

Першыя пісьмовыя помнікі з рысамі беларускамоўных асаблівасцяў з'яўляюцца у 13-м ст. ("Дамова смаленскага князя Мсціслава з Рыгаю і Гоцкім берагам", 1229). Старабеларуская літаратурная мова сфармавалася у сярэдзіне 15-га ст., калі беларускія рысы набылі ў пісьменнасці значэнне літаратурнай нормы.

У часы Вялікага Княства Літоўскага беларуская мова была дзяржаўнаю на тэрыторыі Княства. Ёй карысталіся таксама і ў Польшчы, напрыклад, каралі Ягайла і Жыгімонт. Ёй таксама карысталіся князі Малдовы і Валахіі. На ёй былі запісаныя законы, статуты ВКЛ. Вялікі ўнёсак у развіццё беларускай мовы зрабіў Францішак Скарына, які пераклаў на беларускую мову Біблію. Вялікі ўнёсак у развіццё нашай мовы зрабілі такія дзеячы, як С. Будны, В. Цяпінскі, Л. Зізані, Л. Карповіч, М. Сматрыцкі ды інш.

У 16-17 ст. ст. беларуская мова ўжывалася ва ўсіх відах пісьмовасці. Аднак напрыканцы 16-га ст. адбывалася ўзмоцненая паланізацыя. Таму беларуская мова пачала мэтанакіравана выцясняцца з дзелавой пісьменнасці польскаю моваю.

У 1696 годзе афіцыйна забаранілі ўжыванне беларускай мовы як дзяржаўнай і дзелавой. Але людзі ўжывалі яе ў вуснай гутарцы. Далучэнне Беларусі да Расеі ў 1772-1795 г.г. таксама спрыяла змяненню беларускай мовы. Новая літаратурная мова пачала стварацца ў першай палове 19-га ст. на жывой гутарковай аснове. Пасля кастрычніцкага перавароту беларускі народ атрымаў права карыстацца роднаю моваю ва ўсіх сферах дзяржаўнасці і культуры. Літаратурная беларуская мова ў працэсе свайго развіцця сінтэзавала важнейшыя рысы большай часткі беларускіх гаворак. А што было далей, вы ведаеце? Яна пацярпела шмат уціску з боку камуністычных уладаў. Гэтыя рэпрэсіі даходзілі да таго, што фактычна яе забаранялі выкарыстоўваць. Нягледзячы на гэта, яна жыла. Жыла ў тых беларусах, якія не спалохаліся дзяржаўнага пры-гнёту ды НКВДыстаў і КГБэшнікаў. Далей, пачынаючы дзесьці з 80-х гадоў уціск ворагаў беларускай мовы прыняў іншую форму. Напрыклад, пачалі з'яўляцца розныя тэорыі, пабудаваныя на хлусні. Адныя даказвалі, што нашая мова дрэнна ўплывае на галасавыя з'вязкі, другія казалі – на інтэлект і г.д. Ужываліся розныя прыёмы ўздзеяння на беларускі народ: праз тэлебачанне, радыё, газеты. Нават зараз ёсць беларусы, якія ходзяць па беларускіх вуліцах і не ведаюць, што ім хлусяць, ім плююць у твар. Яны не заўважаюць гэтага. Такім людзям патрэбная дапамога. Трэба іх навучыць, даць веды і не баяцца ціску. Чаму гэта не можам быць мы? Мы будзем вучыць нашую мову, затым пачнем навучаць беларускай мове тых, хто ў гэтым мае патрэбу. Сіла ў праўдзе. Веды – гэта сіла. І сіла заўжды жыве ў нас. Нашая родная мова – гэта сіла. І гэту сілу мы можам выкарыстоўваць не толькі ў барацьбе, але і ў штодзённым жыцці. Мы пазбудземся нястачы, якая пазбаўляе нас сілы. А сілы нам вельмі не хапае сёння. Яе не хапае кожнаму беларусу, які жыве у Беларусі ці ў замежжы. Калі мы будзем ведаць родную мову, тады мы адчуем нашую нацыянальную годнасць. Мы адчуем, што ёсць такая нацыя, беларусы! Ёсць мы! Мы адчуем нашую еднасць, збяромся і пакажам ўсяму свету, хто ёсць мы! Чаму мы не лепшыя за Японію? Чаму мы не лепшыя за Нямеччыну альбо Амерыку? Ды ў кожным з нас ёсць усё, каб быць не горшымі за іншых! Мы можам быць нават лепшымі за амерыканцаў ці японцаў. Беларусь можа быць лепшаю за Японію ды Амерыку! Нам трэба толькі нашая родная мова! Мы павінны вывучаць яе!

Не трэба, каб мы гаварылі іншаземцам, што мы з Расеі. Давайце пакажам ім, што ёсць краіна Беларусь. Ёсць моцная краіна, якая мае усё, каб быць на ўзроўні іншых дзяржаваў. У яе ёсць усе шанцы перагнаць іншыя краіны. У нас ёсць свая родная мова. Ёсць незалежнасць! Дык навошта нам выкарыстоўваць у зносінах расейскую мову? Нам не патрэбная яна! Мы – беларусы!!! Мы маем уласную мову! І яна нашая, родная... І мы моцны народ, моцная нацыя! У нас, беларусаў, у генах закладзены той цудоўны механізм, што калі мы гаворым па-беларуску кожны дзень, то ён пачынае працаваць, выпрацоўваць энергію, неабходную для нашай дзейнасці. Тады мы пачынаем думаць, як сапраўдныя беларусы. Мы тады ўжо не расейцы і не амерыканцы. І кожны з нас не горш за расейца, японца ці амерыканца. Давайце ж вывучаць і ведаць нашу родную беларускую мову!

*Паводле "Беларус" №510.*

# Ксёндз Адам Станкевіч: падзея і дакументы

25 чэрвеня ў Вільні, у Базыльянскіх Мурах, на будынку, дзе да вайны месцілася Віленская беларуская гімназія, намаганнямі старшыні Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, адбылося ўрачыстае адкрыццё дошкі выбітнаму дзеячу-ксяндзу Адаму Станкевічу. З пачатку дзейнасці ТБК, Старшыня паставіў задачу – ушанаваць памяць выдомых беларускіх дзеячоў Вільні, сярод іх і Адам Станкевіч. Ужо ўсталявана 8 мемарыяльных дошак, надмагільныя помнікі. Жыццё і дзейнасць Адам Станкевіча служыць прыкладам для моладзі. У ТБК праводзіліся імпрэзы, збіраўся матэрыял. Хв. Нюнька працаваў у архівах КДБ Літвы. Шмат зрабіў адбіткаў допытаў ксяндза, у 2000 годзе ТБК ладзіла вандроўку ў вёску Арляняты, дзе нарадзіўся А. Станкевіч, наведалі мясцовыя могілкі, на якіх стаіць помнік. Нарэшце, пасля доўгіх намаганняў, Хв. Нюнька атрымаў дазвол на ўсталяванне мемарыяльнай дошкі на будынку былой гімназіі, у якой А. Станкевіч выкладаў рэлігію, побач з табліцай паэтцы Наталлі Арсенневай. Дошку зрабіў вядомы лідскі мастак Рычард Груша. Нажаль сам мастак на імпрэзу не змог прысехаць, затое прысутныя адзначылі высокі мастацкі ўзровень працы. На свяце было шмат моладзі, былыя вучні і выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі, многія прыехалі з лецішчаў, а некаторыя і з Беларусі.

На імпрэзе выступілі: старшыня ТБК Хверад Нюнька, які адзначыў, што збылася даўняя мара, ушанавана імя Адам Станкевіча, духоўная спадчына якога мала вядомая для шырокага кола. Ён шмат зрабіў для беларускай культуры і гісторыі. Былая вучаніца ВБГ – Галіна Войцік – Луцкевіч, аўтарка кнігі пра Адама Станкевіча, што выйшла ў серыі "Партрэты віленчукоў" асабіста ведала А. Станкевіча. Ксёндз у 1948 годзе праводзіў у апошні шлях яе бацьку Антона Войціка. Выступоўца А. Адамковіч падрабязна распавёў біяграфію А. Станкевіча. Напрыканцы Хв. Нюнька зачытаў урыўкі з допытаў ксяндза. На імпрэзе прысутнічалі журналісты. Зроблена відыякасета.

У гэты ж дзень табіцу знялі, яна часова знаходзіцца ў сядзібе ТБК.

Нейкі злы рок на беларусція мемарыяльныя дошкі: сарвалі барэльеф Рыгора Шырмы, украдзены табліцы В. Ластоўскаму, Бр. Тарашкевічу. П. Сергіевічу. Днямі ўкралі каштоўную бронзавую таблицу Н. Арсенневай-мастацкі твор А. Шатэрніка. Таму, гэтым разам вырашылі не рызыкаваць, бо табліца А. Станкевічу зроблена з бронзы і гэта мастацкі твор знакамітага ўжо майстра Р. Грушы.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*



***На здымку:*** Рычард Груша, Леакадзія Мілаш і Хведар Нюнька падчас прыезду Р. Грушы ў Вільню перад пачаткам працы над мемарыяльнай дошкай, люты 2005.

**Допыт 15. 04. 49 г. 21.30-630**

Станкевіч А. Скончыў у 1918 г. рымска-каталіцкую духоўную акадэмію ў г. Ленінградзе (Пецербурзе).

З дазволу япіскапа Матулявічуса пераехаў у Вільнюс і прызначаны ў якасці выкладчыка закону ў гімназіі. У гімназіі служыў да 1932 г., пасля чаго польскімі ўладамі быў адхілены ад службы ў Віленскай Беларускай гімназіі і служыў да 1938 году вікарным ксяндзом пры польскім касцёле "Святога духа" пры Даміканскім клештары. У 1938 г. палкоўнікам Бацянскім, ваяводам Вільні, быў высланы з межаў Вільні за палітычную недабранадзейнасць. Я выехаў у Навагрудскае ваяводства – горад Слонім і служыў у якасці капелана польскага кляштара да жніўня 1939 г.

Са жніўня 1939 г. да 1942 г. служыў настаяцелем пры каталіцкім касцёле. "Святога Мікалая" у гор. Вільні для беларусаў. Паясняю, касцёл "Св. Мікалая" галоўным чынам абслугоўваў літоўцаў, але там жа праходзіла служба і для беларусаў. Адначасна пры касцёле з 1939 г. па 1941 г. быў дырэктарам беларускай прагімназіі. У 1941 годзе прагімназія была рэарганізавана ў гімназію. У апошняй быў да 1944 года законанастаўнікам і выкладаў беларускую мову. З 1942 г. да жніўня 1948 г. я быў рэктарам касцёла. "Святога Міхала" пры клештары манашак беранардзінак. Са жніўня 1948 г. пасля закрыцця названага касцёла, быў вікарным ксяндзом пры касцёле "Св. Тарэзы" (Вострая брама), дзе служыў да свайго арышту – 13 красавіка 1949 года.

**Пытанне:** У якіх палітычных партыях, арганізацыях і таварыствах вы ўдзельнічалі і якую работу праводзілі?

**Адказ:** Мая дзейнасць - з 1917 году, з гэтага часу я ўжо з'яўляўся сябрам партыі "Беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў", а з 1922 г. па 1928 г. быў кіраўніком гэтай партыі.

З 1922 г. па 1926 г. з'яўляўся дэпутатам польскага сойму ад партыі хрысціянскіх дэмакратаў.

У 1919-1944 г. быў сябрам "Беларускага навуковага таварыства".

З 1919 па 1936 г і з ліпеня па кастрычнік 1941 г. сябра Беларускага Нацыянальнага камітэту.

З 1929 па 1939 г. сябра Беларускага цэнтра ў Літве. Са снежня 1939 да сярэдзіны 1940 старшыня гэтага цэнтра.

У названых мною партыях і арганізацыях мая дзейнасць зводзілася да таго, што ў партыі "Беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў" я быў ідэёлагам гэтай партыі – лідарам гэтай партыі, кіраваў і накіроўваў усю яе дзейнасць адначасова з'яўляўся кіраўніком друкаванага органа партыі "Беларускіх Хрысціянскіх дэмакратаў", газеты "Крыніца". Там друкаваліся мае выданні: "Да гісторыя беларускага палітычнага вызвалення", "Беларускі хрысціянскі рух".

У сойме вёў работу па лініі адстойвання і абароны інтарэсаў асветы ў Беларусі, а таксама ў камісіі па замежных справах.

У Беларускім навуковым таварыстве я чытаў публічныя лекцыі з галіны гісторыі беларускага сялянскага руху.

У Беларускім нацыянальным камітэце з'яўляўся старшынём ад каталіцкага выдавецтва.

У Беларускім цэнтры Літвы я вёў працу па аказванні матэрыяльнай дапамогі вучэбным установам беларусаў у Літве (канцэрты, прамовы і г.д.). Па сутнасці я з'яўляўся беларускім нацыянальным дзеячом, змагаўшымся за стварэнне Беларускай незалежнай буржуазнай дзяржавы шляхам эвалюцыі.

**Пытанне:** Якую антысавецкую дзейнасць вы праводзілі?

**Адказ:** У сваіх друкаваных выданнях выступаў з крытыкай палітыкі савецкай улады, у якіх адкрыта заяўляў сваю незадаволенасць гэтай палітыкай па шэрагу пытанняў (рэлігія, ссылка духавенства, калектывізацыя, культурна-нацыянальныя пытанні, ссылка беларускай інтэлігенцыі).

**Пытанне:** Які ўдзел у "Узаемнай дапамозе"?

**Адказ:** ніякага ўдзелу не прымаў.

**Допыт 16.04.49 14.45-17.20**

**Пытанне:** Дзе і колькі часу выдавалі "Хрысціянскую думку"?

**Адказ:** Часопіс "Хрысціянская думка" выдаваўся мною на працягу 10 гадоў з 1928 да 1938 году. Зачынены мною ў сувязі з высылкай з Вільнюса.

**Пытанне:** Хто з названых асобаў (Гадлеўскі, Германовіч, Шутовіч В., Тарасевіч, Абрантовіч) пісаў у "Хрысьціянсую думку" антысавецкія артыкулы?

**Адказ:** Наколькі я памятаю, акрамя мяне ніхто ў часопісе "Х.Д" артыкулаў антысавецкага зместу не пісаў.

**Допыт 2.6. 49. 12.10-4.30**

**Пытанне:** Як вы практычна ажыццяўлялі заданні партыі "Б.Х.Д."?

**Адказ:** Ставячы сваёй галоўнай задачай-стварэнне "Незалежнай Беларускай дзяржавы" партыя Хрысціянскіх дэмакратаў імкнулася шляхам укаранення ў масы беларускага народу сваіх ідэялагічных падстаў, распаўсюджваючы друкаваныя выданні літаратуру, ідэялагічнага выхавання моладзі ў беларускіх школах. Партыя "Беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў" выхоўвала беларускі народ у духу беларускага нацыяналізму, паколькі сама партыя з'яўлялася нацыяналістычнай.

## Пастанова на арышт Станкевіча Адам Вікенціевіча

**16.03. 1949 г.**

Станкевіч з'яўляецца адным з відных кіраўнікоў беларусага буржуазна-нацыяналістычнага руху, скіраванага на адлучэнне Беларусі ад Савецкага Саюзу і стварэнне "Незалежнай буржуазнай Беларускай дзяржавы".

З 1918 па 1928 г. Станкевіч з'яўляўся сябрам, а затым кіраўніком партыі "Беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў" і рэдактарам друкаванага органа гэтай партыі газеты "Крыніца" і "Хрысціянскай думкі", на старонках якой паклёпнічаў на савецкую ўладу і яе мерапрыемствы.

У сваіх творах: "Беларускі нацыянальны дух" і "Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення" ён паклёпнічаў на калгасны лад, нацыянальную палітыку партыі.

Жывучы, падчас нямецкай акупацыі ў гор. Вільнюсе, Станкевіч з дазволу нямецкіх уладаў, стварыў у гор. Вільнюсе "Беларускі нацыянальны камітэт", дзе праводзіў сваю антысавецкую нацыяналістычную дзейнасць, дабіваючыся ад немцаў стварыць "Незалежную буржуазную Беларускую дзяржаву".

За супрацоўніцтва з немцамі, Станкевіч нямецкімі акупацыйнымі ўладамі меркаваўся да вылучэння на пост генеральнага вікарыя беларускай каталіцкай царквы.

**Пастанавіў**

Станкевіча Адама Вікенціевіча, праж. у гор. Вільнюс, Полацкая 9, кв. 4 падвергнуць арышту і вобыску.

О/у "О" МДБ Літ. ССР лейт. Бушуеў.

Палкоўнік Шляпікоў

Палкоўнік Салоід.

## Абвінаваўчае заключэнне 9.7.1949 г.

Абвінавачваецца у тым, што з 1919 г. быў адным з кіраўнічых удзельнікаў буржуазна-нацыяналістычнай партыі "Б.Х.Д.", Беларускага Нацыянальнага Камітэту, удзельнічаў у распрацоўцы і дасыланні замежным дзяржавам антысавецкіх зваротаў з патрабаваннем аддзяліць БССР ад Савецкага Саюза. Асабіста сам напісаў шэраг антысавецкіх кніг і змяшчаў у газеце "Крыніца" і ў часопісе "Хрысціянская думка" артыкулы антысавецкага зместу. У часе акупацыі Літоўскай ССР немцамі выступаў у касцёле перад вернікамі з антысавецкімі прапаведзямі і да арышту захоўваў у сябе на кватэры розную антысавецкую літаратуру.

Мяркую, каб справу № 15896 накіраваць на разгляд Асобай Нарады пры Міністэрстве дзяржаўнай бяспекі Саюзу ССР.

Міністэрства дзяржаўнай бяспекі Літ. ССР прапануе Станкевічу Адаму Вікенцевічу 10 гадоў папраўчых працоўных лагераў з канфіскатай маёмасці.

### Пратакол асобай нарады пры МДБСССР. Пастанавіў:

Станкевіча Адама Вікенціевіча за належнасць да контррэвалюцыйнай арганізацыі і антысавецкую агітацыю заключыць у папраўча-працоўны лагер тэрмінам на 25 гадоў. 21.9. 1949 г.

*(Цераз няпоўных тры месяцы 4 снежня 1949 г. на 58 годзе жыцця ў Озерлагу Брацка Адам Станкевіч памёр.)*

## Пасведчанне аб рэабілітацыі.

Сведчыцца, што грам. Станкевіч Адам Вікенціевіч на аснове ўказу "Аб дадатковых кроках па аднаўленні справядлівасці ў адносінах да ахвяраў рэпрэсій, якія мелі месца ў 30-40 і пачатку 50-х гадоў" рэабілітаваны.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.

***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.

***Адрас рэдакцыі:*** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.

***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:*** Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.

Газета падпісана да друку 11. 07. 2005 г. у 11.30. Замова № 1220.

Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.

***Падпісны індэкс:*** 63865.

***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.

***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.